# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

спэцыяльны выпуск

## У Менску арыштавалі Алеся Бяляцкага

4 жніўня быў затрыманы кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі. Як высьветлілася, яму інкрымінуюць «скрываньне даходаў у асабліва буйным памеры». Максымальнае пакараньне, прадугледжанае адпаведным артыкулам Крымінальнага кодэксу РБ (частка 2 артыкулу 243), - сем гадоў пазбаўленьня волі з канфіскацыяй маёмасьці. Затрыманьню вядомага праваабаронцы папярэднічалі ператрусы ў офісе «Вясны» ў Менску, у яго дома і на лецішчы. Сярод іншага, у А. Бяляцкага канфіскавалі кампутар.



*Алесь Бяляцкі перад затрыманьнем. Фота: Радыё Свабода*

Ноч з 4-га на 5-е жніўня Алесь Бяляцкі правёў у будынку Дэпартамэнту фінансавых расьследаваньняў Камітэту дзяржкантролю, што знаходзіцца па вуліцы Петруся Броўкі ў Менску. Напачатку заяўлялася пра тое, што ён будзе знаходзіцца пад вартай цягам 3 дзён. Аднак, пасьля таго, як распачаліся сьледчыя дзеяньні, тэрмін ягонага арышту быў працягнуты да 10-ці сутак. Праваабаронцу перавезьлі з камэры Дэпартамэнту фінансавых расьсьледаваньняў КДК у сьледчы ізалятар на Валадарскага.

## Праваабаронцы і актывісты грамадзянскай супольнасьці Віцебшчыны абураюцца арыштам Алеся Бяляцкага

Праваабаронцы і прадстаўнікі грамадзянскай супольнасьці Віцебскай вобласьці ў шоку! Разам з палітыкамі, грамадзкімі і палітычнымі дзеячамі сьвету яны адзінадушна выказваюць словы падтрымкі Алесю Бяляцкаму і абураюцца дзеяньнямі ўладаў у адносінах да кіраўніка пазбаўленага дзяржаўнай рэгістрацыі праваабарончага цэнтру «Вясна».



*Праваабаронца і журналістка, кіраўніца Міжнароднага цэнтру грамадзянскіх ініцыятываў «Наш Дом» Вольга Карач:* «Беларускія ўлады плянамерна зьнішчаюць грамадзянскую супольнасьць. Затрыманьне і абвінавачваньні ў адрас Алеся Бяляцкага працягваюць шэраг палітычна матываваных перасьледаў. Бяляцкі затрыманы 4 жніўня. У гэты дзень 49 гадоў таму быў арыштаваны Нэльсан Мандэла, у турме ён правёў 28 гадоў ... “Наш Дом” выказвае рашучы пратэст супраць затрыманьня Алеся Бяляцкага і асуджае любое выкарыстаньне дзяржаўных інстытуцыяў у якасьці палітычнай паліцыі. Мы патрабуем спыніць рэпрэсіі, накіраваныя супраць праваабаронцаў і актывістаў палітычных і грамадзкіх арганізацыяў Беларусі».



*Сустаршыня аргамітэту па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» Павал Севярынец:* «Беззаконьне працягваецца. Мяркуючы па ўсім, улады пачалі зачыстку перад восеньню. Яны баяцца масавых пратэстаў і спрабуюць ня толькі ціснуць на пратэстоўцаў, але і падарваць сыстэму салідарнасьці і ўзаемадапамогі. Алесь Бяляцкі быў адным зь лідэраў той хвалі нацыянальнага адраджэньня, якая прывяла да незалежнасьці Беларусі. Ён ужо больш за 20 гадоў у нацыянальным руху. Мы молімся за яго і яго сям’ю. Наш адказ на рэпрэсіі – трымацца разам!»

# Аляксандар Мікулін: Справа супраць Бяляцкага павінна быць спыненая за адсутнасьцю складу злачынства



*Крымінальная справа ў дачыненьні да Алеся Бяляцкага павінна быць спыненая за адсутнасьцю складу злачынства. Да такой высновы пасьля стараннага аналізу беларускага падатковага заканадаўства прыйшоў Аляксандар Мікулін (на фота), былы супрацоўнік Камітэту па арганізаванай злачыннасьці і карупцыі пры МУС РБ па Віцебскай вобласьці, цяпер - праваабаронца:*

4 жніўня 2011 г. у Менску затрыманы, а пасьля арыштаваны на дзесяць сутак да прад'яўленьня абвінавачаньня Алесь Бяляцкі, кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна». Паводле матэрыялаў сьледчай праверкі, Алесь Бяляцкі цягам 2009-2010 гадоў утаіў частку даходу ад атрыманых ім сумаў, што знаходзяцца на рахунку банка ў Летуве. Праверка ўстанавіла, што сума даходу складае больш за адзін мільярд беларускіх рублёў, а сума нявыплачанага падатку складае 143 мільёны беларускіх рублёў. Злачынства адносіцца да цяжкіх ў адпаведнасьці з ч. 2 арт. 243 КК РБ.

Разгледзьма, наколькі правамерныя патрабаваньні падатковай інспэкцыі, воргана крымінальнага перасьледу да грамадзяніна Рэспублікі Беларусь Алеся Бяляцкага. Вельмі спрэчна, але высьветлена дакладна, што грамадзянскі абавязак па выплаце падаткаў Бяляцкі выконваў. Яму інкрымінуецца, што сумы, названыя ім у падатковай дэкларацыі, значна меншыя за тыя, якія налічыла падатковая інспэкцыя. Хто мае рацыю? Вядома, суд разьбярэцца. Але чаму падатковы ворган ня даў магчымасьці Бяляцкаму абараніць свае правы праз абскарджаньне рашэньня падатковага воргана ў вышэйстаячую арганізацыю, у судзе ў межах дадзенага яму грамадзянска-працэсуальным законам права? Гэта, па-першае. Па-другое, наколькі законная пададзеная Летувіскім бокам інфармацыя наконт банкаўскіх рахункаў беларусаў у рамках узаемных дамоўленасьцяў з Рэспублікай Беларусь па ўзаемным супрацоўніцтве па крымінальных, грамадзянскіх і сямейных справах? Як вядома, а гэта сусьветная практыка, і Рэспубліка Беларусь - не выключэньне, доказы, здабытыя не працэсуальным шляхам нельга выкарыстоўваць у доказнай базе супраць грамадзян!

Алесь Бяляцкі на працягу больш як 20 гадоў займаецца праваабарончай дзейнасьцю. Праваабарончы цэнтар, які ён узначальвае, у апошнія некалькі гадоў пазбаўлены юрыдычнай рэгістрацыі ў Рэспубліцы Беларусь, банкаўскія рахункі зачыненыя. Сваю праваабарончую дзейнасьць Алесь Бяляцкі ажыцьцяўляў публічна, адкрыта перад уладамі супрацьстаяў парушэньням правоў чалавека, аказваў бязвыплатна матэрыяльную дапамогу аднадумцам, пацярпелым за свае палітычныя погляды і ўчынкі. Атрыманыя грашовыя сродкі арганізацыі акумуляваў на рахунку, зарэгістраваным на сваё імя, у мэтах зьдзяйсьненьня заяўленай статутнай дзейнасьці арганізацыі, тым самым выконваў фактычна дырэктарскія функцыі.

Суб'ект гэткага кшталту злачынства спэцыяльны - асоба, якая дасягнула 16 гадоў. Гэта значыць, што ён павінен быць зарэгістраваны ў падатковым воргане як прыватная асоба, якая выконвае функцыю дырэктара арганізацыі, пазбаўленай дзяржаўнай рэгістрацыі, якая карыстаецца асабістым рахункам дырэктара, што знаходзіцца ў банку Летувы. Ён, да таго ж, як прадстаўнік юрыдычнай асобы, неаднаразова спрабаваў праз Вышэйшыя судовыя ворганы дзяржавы аднавіць дзяржаўную рэгістрацыю арганізацыі і хацеў плаціць падаткі як належыць. На справе мы маем тое, што ў падатковым воргане ён у такой якасьці не знаходзіўся на ўліку, як прадстаўнік арганізацыі. Значыць, адсутнічае спэцыяльны суб'ект злачынства.

Суб'ектыўным бокам гэтага складу злачынства зьяўляецца наўмысная віна ў форме наўпроставага намеру, абавязковай прыкметай якога ёсьць мэта - наўмыснае ўхіленьне ад падаткаў. Алесь Бяляцкі ад выплаты падаткаў не ўхіляўся і мэты ня-выплаты падаткаў у яго не было, што пацьвярджаецца яго запоўненай дэклярацыяй і зробленымі выплатамі ў даход дзяржавы. Магчыма, ён меў памылку датычна вылічэньня падатковай базы па падаходным падатку, а гэта ўжо не наўпроставы намер, а неасьцярожнасьць, што не зьяўляецца складам злачынства (арт. 243 КК РБ).

Аб'ектам гэтага злачынства зьяўляецца устаноўлены парадак выплаты падаткаў і збораў. Акт праверкі падатковай інспэкцыі выявіў парушэньні ўстаноўленага парадку выплаты падатку, грунтуючыся на зьвестках, атрыманых ад Летувіскага боку на падставе дзяржаўнага запыту. Ці меў права, і хто менавіта зрабіў такі дзяржаўны запыт, і на якой падставе гэта зроблена? І ці ў поўнай меры падазраваны мог абскардзіць дзеяньні дзяржаўнага воргана, які зрабіў гэты запыт, без апавяшчэньня яго ў тым? Па сутнасьці, наяўнасьць асабістага рахунку зьяўляецца канфідэнцыйнай інфармацыяй, якая можа быць здабыткам публічнасьці толькі ў крайніх выключных выпадках і па запыце суду! Ён зьяўляецца сумленным і прыстойным грамадзянінам, і яму няма чаго хаваць ад уладаў. Такім чынам, нельга будаваць абвінавачваньні і вінаваціць грамадзяніна, грунтуючыся на несапраўдных доказах.

Суб'ектыўны бок у дзеяньнях Алеся Бяляцкага, прадугледжаны гэтым артыкулам, адсутнічае, падатковую базу ён наўмысна ня ўтойваў, заніжэньня падатковай базы праз унясеньне заведама ілжывых ў бок зьмяншэньня зьвестак не ажыцьцяўляў, ад падачы падатковай дэклярацыі не ўхіляўся. Ён проста памыляўся ў дачыненьні дзеяньня беларускага падатковага заканадаўства.

На мой погляд, мы маем справу, якая павінна быць спыненая за адсутнасьцю складу злачынства, ч. 1 п. 2 арт. 29 Крымінальна-працэсуальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь, бо ў наяўнасьці ў дзеяньнях А. Бяляцкага ёсьць неасьцярожная віна, то бок памылковае прымяненьне нормы падатковага заканадаўства пры вылічэньні падатковай базы, без прыкмет наўпроставага намеру.

Хачу далей сказаць, давайце будзем паважаць адзін аднаго і ўстрымлівацца ад узаемных абразаў. Паважаючы закон у малым, мы прыйдзем да сапраўды прававой дзяржавы, дзе незалежна ад займаемай пасады, нацыянальнасьці ўсе будуць роўныя перад законам!

*Праваабаронца Аляксандар Мікулін*



Бюлетэнь "За правы чалавека" выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.